Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 39 Серада, 29-га Кастрычніка 1924 г. Год I.

# Грамадзкі Голас

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гада. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## Маніякі.

Нацыянальная летаргія, ў якой беларускі народ правеў не адну сотню гадоў няволі, зьяўляецца прычынаю нашай агульнай палітычнай нядолі.

Чужацкая культура, панаваўшая на нашай зямлі дасюль, вырывала з сялянскае гушчы паасобныя адзінкі, адрывала іх ад інтарэсаў свайго роднага народу і прымушала служыць чужым кумірам. Рэзультатам усяго гэтага зьявіўся брак нацыянальных інтэлігэнцкіх сіл у момэнт палітычнага і нацыянальнага прабуджэньня самых народных беларускіх масаў.

Палітычная нясьпеласьць шырокіх народных масаў пазбаўляе іх сапраўды крытычна адносіцца да розных палітычных кірункаў сваее роднае інтэлігэнцыі. І дзякуючы цемнаце народнай, нацыянальны беларускі рух ня выходзіў дасюль за межы цесных інтэлігэнцкіх гурткоў.

Гурткоўшчына вытварыла сярод некаторых адзінак беларускай інтэлігэнцыі тып маніякаў, якім здаецца, быццам яны толькі адны зьяўляюцца „сольлю" Зямлі Беларускай і быццам усе тыя, хто не згаджаецца з іхняй камандаю ды робіць тую ці іншую беларускую справу так, як ён сам умее і разумее, робяцца народнымі ворагамі.

Гэткая дзікарская нецярпімасьць да перакананьняў і тактычных паступкаў сваіх-жа родных братоў можа быць толькі ў душах людзей, надта аграніčаных.

Набраўшы ў час поўнай нацыянальнай няволі аднаго толькі павярхоўнага лоску чужацкае культуры, адзінкі гэткія ня могуць ніяк страсьці з сябе тае някультурнасьці, якая вырасла падчас нацыянальнага рабства.

У гэтым нас пераконвае найлепей ні то перадавы артыкул, ні то нейкі „маніфэст" хатняга вырабу ў № 30 „Krynicy", падпісаны псэўдонімам „Ihnat Paragać".

Чаго толькі няма ў гэтым „маніфэсьце" аднаго з нашых маніякаў: тут і „Грамадзкі Голас" — не беларускі, і „Грамадзянскае Сабраньне", і „Часовая Беларуская Рада" — зьяўляюцца горшымі за які-нібудзь малюсенькі варшаўскі тыднёвічак „Jutro", са шпальтаў якога нібыто загаварыла, — як думае грам. Ihn. Paragać, — „лепшае польскае грамадзянства".

Мы не знаёмы з гэтым грамадзянствам і думаем, што судзіць аб тым — лепшае яно, ці горшае ня нам; няхай гэта будзе ўнутранаю справаю самое польскае нацыі.

Дарма нашыя рэптыльныя газэты „Krynica" і „Сялянская Праўда" стараюцца прыкінуцца нявіннымі ягняткамі і захапляюцца махлярскаю характарыстыкаю (каб не сказаць мацней) паасобных беларускіх дзеячоў, якіх і п. п. з „Сял. Пр." і ксяндзы з „Krynicy" вельмі добра знаюць ды раней, як хто іншы, аб іх ведаюць.

І дзіўна, што які-нібудзь, сапраўды дзівачны беларус, Яўгень Ладноў быў беларусам і навет мусі вельмі добрым тады, калі не далей, як у 1919 г. быў ваенным міністрам Беларускай Народнай Рэспублікі ў кабінэце не Салаўя, не Паўлюкевіча, не Валэйшы і інш., а ў Радзе Народных Міністраў п. А. Луцкевіча. Палк. Канапацкі быў добрым палкоўнікам, калі быў назначаны дэкрэтам Пілсудскага і камандаваў беларускімі вайсковымі аддзеламі. П. Дубейкоўскі быў датуль добры беларус для нашых маніякаў, пакуль быў прадстаўнікам іхняе-ж „Найвышэйшае Рады", ў якую ўваходзіў, паміж іншымі, дзе-хто з цяперашніх нашых парлямэнтарыяў. Грамадз. С. Валэйша мог быць добрым беларусам толькі ў той час, калі стаяў на пасту выбарнага камісара па сьпіску № 16 у Вільні, дзе беларускаю сэкцыяй гэтага N-ру камандаваў ніхто іншы, як сам п. А Луцкевіч.

Цяпер названыя беларусы перасталі быць для партыі Луцкевіча беларусамі.

Падобныя факты аднялі б у нас вельмі шмат часу і месца, але і вышэй прыведзеных з іх аж надта хапае дзеля таго, каб прыйсьці да простага лёгічнага вываду: кожны беларускі інтэлігэнт, выйшаўшы з-пад каманды тых, якія беларускасьць лічаць за свой манаполь, падпадае пад небясьпеку быць абляяным сваімі-ж учарашнімі камандзерамі, бязумоўна хворымі маніяй вялікасьці. Аднакжа ня кожны беларус бясстыднае лайбы баіцца, а сам ход гісторыі нашага народу найлепей сьведчыць аб тым, што гэта маніяцкая „соль" Зямлі Беларускай мае страшэнны горкі і прыкры смак, дзеля таго толькі, што яе палітычная спэкуляцыя на народнай цемнаце адбывалася дасюль безапэляцыйна.

Тактыка гэтак званых „найвышэйшых" беларускіх палітыкаў павярнула цяпер на усход ад Вільні і яны, — самі не верачы ў тое, што пішуць, — назаказ стараюцца паднясьці беларускім народным масам у Польшчы, нібыто чысьцейшую *праўду* дый яшчэ *сялянскую*.

Гэтак, напр., у іхняй газэце за 26 гэт. кастрычніка № 12 у артыкуле „Сямёхгодняя воля" чытаем нібыто:

„Цяпер Беларуская Рэспубліка ў склад якой уваходзяць усе ўсходня-беларускія землі з Менскам, Віцебскам, Полацкам і Магілёвам, дзеліцца на дзесяць акругоў"...

Наколькі акругоў дзеліцца гэта рэспубліка — няважна, але што *ня ўсе* ўсходня-беларускія землі ўваходзяць у яе — гэта мы ведаем.

Быць можа, што малаграматны беларускі селянін з Гарадзеншчыны, ці Віленшчыны і ня ведае, што ў Рэспубліку гэту не ўваходзіць Гомель разам з яшчэ дзесяткімі кавалкамі Беларускай Зямлі, якія дасюль яшчэ лічацца пад сувэрэнітэтам Р. С. Ф. С. Р. або ў расшыфраваньні — ўсё той-жа самай... Маскоўшчыны.

Можа тутэйшы наш селянін, не па сваёй віне, ня ведае навет і таго, што ў гэткім Гомельскім павеце жыве такое самае сярмяжнае беларускае сялянства, ня ведае можа й таго, што з Гомельшчыны бальшавікамі створана самая простая расейская „губернія".

Але ніяк ня верыцца, каб гэтага ня ведаў ня толькі кожны беларускі інтэлігэнт, а навет кожны з нас, хто хаця-бы ў пачатковай школе прайшоў курс элемэнтарнае географіі былшае Расеі.

І напэўна гэта ведае кожны наш інтэлігэнт незалежна ад таго, дзеяч ён, ці не, бальшавік, ці меншавік, дэмакрат, ці консэрватар?

Якая-ж тады цана ўсялякага гатунку „праўдзе" з налепленым на яе *сялянскім* ярлыком, якую праз меру стараюцца ўбіць у бедную галаву беларускага селяніна бальшавіцкія пястуны з газэты „Сялянская Праўда"?

Іхняя манія вялікасьці дарасла да меры поўнай безнадзейнасьці і яны здольны ўжо навет на такую рэч, як адкрытая хлусьня перад сваім уласным народам, з убогай хаты якога і самі яны часам паходзяць.

Няхай-жа не баляць іхнія хворыя галовы аб беларускасьці тых, хто меў адвагу і розум выйсьці з-пад іхняе каманды ды тых, хто пад гэтаю камандаю ніколі й ня быў.

Няхай лепш навучаць гэтай самай беларускасьці некаторых з тых, каго яны высунулі прадстаўляць беларускія інтарэсы ў Польскім Парлямэнце.

## Палітычны агляд.

Пакуль Англія і Нямеччына заняты падгатоўкай да выбараў, Эрыё сьпяшаецца зьдзейсьніць свае лятуценьні — завязаць гандлёва-палітычныя адносіны з С. С. Р. Р. Пры гэтым цікаўна тое, што Францыя праяўляе большую зацікаўленасьць у завязаньні адносін з бальшавікамі, чымся апошнія. Гэта тлумачыцца тым, што бальшавікі зусім страцілі надзею на тое, каб адтрымаць нешта ад заходніх дзяржаваў. Годзі ўспомніць пачатак сёлетняга году, як яны лоўка лявіравалі між Парыжам і Лёнданам, пакуль аканчальна не прайгралі са сваім гандлёвым дагаварам з Англіяй. Спачатку савецкая гандлёвая дэлегацыя на чале са Скобелевым расьселася ў Парыжы ня гэтулькі дзеля гандлю, колькі дзеля выкліканьня зайздрасьці з боку Англіі. І як толькі ў Англіі консэрватыўны ўрад зьмяніўся рабочым на чале якога

стануў ранейшы прыяцель бальшавікоў, Макдональд, Скобелеў адтрымаў з Масквы загад зараз-жа пераехаць з Парыжу ў Лёндан. А аб Парыжы на нейкі час запомнілі. Але не пасьпела »гандлёвая« дэлегацыя Скобелева крэпка заснавацца ў Лёндане, як у Парыжы таксама зьмянілася палітычнае палажэньне ў зьвязку з неспадзяванымі рэзультатамі выбараў 11 мая. Там таксама дарваўся да ўлады свой чалавек — Эрыё, які ўвесь час выступаў за тое, каб дагаварыцца з бальшавікамі. А да гэтага часу пачалі слабець надзеі бальшавікоў на Англію. І Скобелеў у другі раз адтрымоўвае з Масквы загад пакінуць Лёндан і вярнуцца ў Парыж. Гэткім чынам бальшавікі ўвесь час сядзяць на двох крэслах — лёнданскім і парыскім, пакуль не праваляцца. Іхнія надзеі на Англію можна лічыць зусім няўдаўшыміся. Што датычыцца Францыі, дык яны з самага пачатку нічога ад яе не спадзяваліся. Францыя ўлажыла ў С. С. Р. Р. вялізны капітал, які лічаць цяпер на 18½ мільярдаў залатых франкаў. І дзеля гэтага, дзякуючы свайму труднаму дыплёматычнаму палажэньню, яна згадзілася-б адтрымаць ад бальшавікоў хаця старыя процэнты. Значыцца бальшавіком няма што навет і думаць аб новай грашовай пазыцы ўва Францыі, асабліва пасьля таго, як ашпарыліся на гэтым у Англіі і падвялі навет урад Макдональда. А прызнаньне іх французскім урадам мала іх цешыць. Яшчэ вясной савецкая прэса пратрубіла на ўвесь сьвет аб прызнаньні бальшавікоў Англіяй, як аб найвялікшай перамозе, адкрываўшай для С. С. Р. Р. найшырэйшыя магчымасьці. А цяпер, як надзеі на Англію ўпалі, дзе дагэтуль іствавала найлепшае для ангельска-савецкага дагавору палажэньне, як у С. С. Р. Р., так і ўва Францыі пануе поўнае ўзаемнае недаверые і пэсымізм. Уплывовая парыская газэта „Temps“ з прычыны падгатаўляўшыхся француска-савецкіх адносін піша:

— Есьць некаторае недаверые да ўраду, які насільна накідаецца С. С. Р. Р. і апіраецца на сілу, ўводзячы дыктатуру пролетарыяту на карысьць аднэй партыі, якая мае прывілеі, ўлада ўраду яшчэ не зацьверджана устаноўчым сабраньнем, якое адно выяўляе волю ўсяго народу. Гэтае недаверые яшчэ падтрымоўваецца тым, што рэвалюцыйны савецкі ўрад, прыкладаючы камуністычную тэорыю, не прызнае правоў, якія па традыцыі рэгулююць міжнародныя адносіны. Шкода, якую маюць чужаземцы і чужаземныя прадпрыемствы ў С. С. Р. Р., скасаваньне прыватнай уласнасьці, жаданьне анулявать даўгі, зробленыя расейскім урадам, урэшце ўмяшаньне шляхам камуністычнай пропаганды ў жыцьцё іншых народаў з мэтай выклікаць рэвалюцыю, — ўсё гэта выклікала варожыя для С.С.Р.Р. варункі і дзеля гэтага С.С.Р.Р. цяпер адзінокі.

Але ўсё-ткі так ці сяк С.С.Р.Р. падпісаў дагавор з Нямеччынай, Турцыяй, Польшчай, Італіяй, Прыбалтыцкімі ды Скандынаўскімі дзяржавамі; навет прызнаны de jure Англіяй. Дзеля гэтага ці можа Францыя ня быць прысутнай у Маскве? І толькі дзеля таго, каб не застацца ззаду за іншымі, Эрыё таксама хоча прызнаць савецкі ўрад de jure, але бяз ніякіх варункаў, да нічога не абавязаўшых адзін аднаго. На гэткіх-жа варунках прызнаў савецкі урад і Макдональд. А мы ўжо бачым, якую ад гэтага маюць бальшавікі карысьць—зусім ніякай.

Але ня меншы пэсымізм пануе і ў самым С.С.Р.Р., які ўжо навет не стараецца выкарыстаць гэтую палітычную ўдачу для сваіх агітацыйных мэтаў, як гэта было раней. Савецкі афіцыяльны орган «Известия» з прычыны таго, што Францыя думае прызнаць савецкі ўрад, піша:

— Прайшло амаль што не паўгода, як уладу мае кабінэт Эрыё, а пытаньне аб прызнаньні савецкага ўраду яшчэ ня вырашана. Але гэтага яшчэ мала. Палітыка буржуазнай Францыі ў адносінах да С. С. Р. Р., праўду кажучы, не перамянілася. Цэлы рад падзеяў у чынасьці міжнароднай буржуазнай дыплёматыі, скіраванай проці саветаў, выяўляе больш або менш адкрытае, больш або менш рашучае ўчасьце французскай дыплёматыі. У Польшчы, Румыніі, Чэха-Славакіі, Юга-Славіі, Турцыі і на Далёкім Усходзе адкрыта або пад маскай выступае буржуазная Францыя проці саветаў.

Не расьсеяў гэтага пэсымізму й Чычэрын у сваёй апошняй прамове на тэму міжнароднага палажэньня С.С.Р.Р. Больш безнадзейнай прамовы, чымся апошняя прамова Чычэрына, ня прыходзілася чуць з вуснаў савецкіх павадыроў. Аб кім-бы з заходніх дзяржаваў і сваіх суседзяў ён не ўспамінаў, дык з кожным з іх ёсьць у бальшавікоў старыя разрахункі. Праўда, бальшавікі й раней бывалі ў цяжкім палажэньні, але тады ў іх былі надзеі на будучыну. Раней яны спадзяваліся, што ў канцы канцоў будуць прызнаны заходнімі буржуазнымі дзяржавамі, ў якіх можна будзе пазычыць грошы, якіх пасьля можна будзе не аддаць.

Але ані прызнаньні, ані гандлёвыя і палітычныя дагаворы дагэтуль не прынясьлі бальшавіком ніякай рэальнай карысьці. Надзеі на рэвалюцыю, на якую былі зрасходваны ўсе грошы, таксама ня зьдзейсьніліся. І бальшавікі аканчальна засталіся каля разьбітага карыта з разьбітымі лятуценьнямі і надзеямі. Цяпер іх мала цікавіць навет прапазыцыя Францыі аднавіць з ёю адносіны. І бальшавікі, здаецца, пастанавілі махнуць рукой на Захад і і зьвярнуцца на Усход. Ці нельга будзе, думаюць, раздзьмухаць рэвалюцыйны пажар у Кітаі і Індыі, каб хаця гэткім чынам задаць дыхту сваім ворагам—Францыі, Англіі і Амэрыцы, якія зацікаўлены у гэтым. Але ці ня будзе бальшавіком ад гэтага яшчэ горай?

*N.*

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

## АБВЕСТКА

### Настаўнікам пачатковых школаў.

Школьная Камісія Часовай Беларускай Рады гэтым абвяшчае, што, ў зьвязку з адчыненьнем беларускіх школаў, усім зарэестрованым Камісіяй настаўнікам прапануецца: 1) прыслаць свае адукацыйныя дакумэнты і жыцьцярысы; 2) даныя аб тым, дзе магчыма адчыніць школы (ці ёсьць адпаведныя будынкі); 3) сабраць подпісы ня менш як 40 бацькоў, якія аддадуць сваіх дзяцей у беларускія школы; Подпісы павінны быць зацьверджаны солтысам і войтам; 5) якая школа зьяўляецца пажаданаю — чыста-беларуская, ці двухмоўная.

У выпадку, якіх-нібудзь тэхнічных труднасьцяў, ці перашкодаў з боку мясцовае ўлады, незабаўна паведамляць Школьную Камісію па адрэсе: Wilno, ul. Niemiecka, Hotel „Palace“, Białoruska Komisja Szkolna.

Вакансіі будуць замяшчацца ў парадку паступленьня заяваў.

**Школьная Камісія Час. Бел. Рады.**

## Сойм і Ўрад.

Прэм'ер Грабскі сказаў у Сойме абшырнае exposé, з якога мы друкуем тую частку, якая нас асабліва цікавіць, бо датычыцца палітыкі на ўсходніх крэсах.

— Ува ўнутраным палажэньні дзяржавы — сказаў п. Грабскі, — мы былі сьведкамі ўзьвялічэньня ліку, а галоўным чынам сілы, грабежных нападаў на крэсах. Хаця сваім разьмерам гэтыя напады шмат перавышаюць звычайны бандытызм, аднак мушу ад'значыць, што яны канчаюцца простым грабежствам, а награбленыя рэчы вывозяцца за межы дзяржавы. Гэта кідае сьвятло на характар гэтых гвалтаў і напамінае нам пагранічныя адносіны колькі сот гадоў назад і даказвае дзяржаўную патрэбу сарганізаваньня сільнага абароннага бар'еру.

Не масавыя рэпрэсіі, не цяжары вынятковага стану, якія адчувала-б усё насяленьне, але ўзмацаваньне абароннай сілы, абясьпечваючай насяленьне — вось шлях, па якім пайшоў урад. Ведама, што дзеля ўтварэньня добрага абароннага бар'еру трэба даўжэйшага часу. Простая замена паліцыі войскам не разьвяжа пытаньня, як даказваюць ранейшыя дасьведчаньні. Урад з магчымай хуткасьцяй сарганізаваў пагранічную паліцыйную варту, зьмілітарызаваўшы яе і паставіўшы на чале адміністрацыі крэсавых ваяводзтваў вайсковых людзей. Адносіны на крэсах гэткія, што мы павінны вымагаць ад кожнага прадстаўніка ўлады, а асабліва ал асоб, якія стаяць на чале адміністрацыі, каб гатовы былі сілаю адразу бараніцца ад нападаў.

Калі наша Бацькаўшчына была ў небясьпецы, дык лепшыя яе сыны, кінуўшы сваю працу і вышэйшыя

## Няўдалая правакацыя.

Есьць два гатункі ворагаў. Адных мы ненавідзім сьмяртэльна, вядзём адчайную барацьбу, але, калі вораг гіне, паваленым ўдарам, з гэтага момэнту ўпаўшаму ворагу мы аддаём усялякую пашану: Слава дастойнаму байцу! Ен ужо ня вораг наш, ён загінуўшы праціўнік, за сваю ідэю, аддаўшы жыцьцё, бо чыста была яго барацьба і слаўна сьмерць. Другіх ворагаў мы гэтак-жа сьмяртэльна ненавідзім, гэтак-жа вядзём з імі барацьбу, не на жыцьцё а на сьмерць, але як зьнішчожаны вораг падае ў прах, мы ўжо ў вялікай пашане не скланяем галавы, каб пашанаваць загінуўшага праціўніка, наадварот, агіда, як перад раздаўленай гадзінай, ахоплівае нас. Гэта безгранічная ненавісьць, пераходзячая за межы жыцьця чалавека, гарыць полымем у душы ў нас—сьмяртэльных ворагаў бальшавікоў. Бо агіднейшых праціўнікаў, як бальшавікі, сьвет ад свайго пачатку ня бачыў.

Усе спосабы подласьці, ашуканства, вераломства, здрады, шантажу, нялюдзкай жорсткасьці, крыважорства, і неапісальных зьдзекаў над трапіўшымі ў іхнія рукі праціўнікамі, ўсё гэта ў неапісальных формах практыкуецца праклятымі бальшавікамі.

Гэтыя гнюсныя мэтоды барацьбы надта спрытна перахапілі т. зв. прыхвостнікі бальшавікоў. Подласьць, удар з-за вугла, брахня, даносы і правакацыя — вось тыя спосабы, ўжываныя як правіла гэтымі прыхвостнікамі міжнароднай банды праступнікаў.

Усім добра ведама, што Польшча, ня гледзячы на моцны патрыятычна-нацыянальны дух дзяржавы, надта часта зьяўляецца арэнай для ўсялякіх экспэрымэнтаў і правакацыяў, як бальшавікоў, так і іх прыхвостнікаў. Яскравы прыклад гэтаму маем ў апошнім нумары літэратурнай экспозытуры маскоўскае „Праўды“ — „Сялянскай Праўды“. Там ў № 11 зьмешчаны нібы-то зусім перадрук з якойсь-то зусім справядліва названай „z pod ciemnej gwiazdy“ бальшавіцтвуюшчай газэткі „Jutro“. Заметка гэтая, выданая нібы-то за польскую, ёсьць фактычна артыкул, даны ў „Jutro“ адным з п. п. паслоў Беларускага Пасольскага Клюбу. Корэспандэнцыя гэтая (гл. № 11 „С. П.“) інакш ня можа быць названай, як самым подлым, самым гнюсным і абсолютна беспадстаўным даносам. Данос гэты зроблены з зразумелай мэтай ашуканства беларускага і польскага грамадзянства (Ураду яны не правядуць!), якое часта зусім не разьбіраецца ў розных беларускіх палітычных групіроўках, а тым больш ў характарыстыках паадзінчых асоб. Данос-жа гэты ёсьць інсінуацыя, пашквіль не на палітычны кірунак не на „шкадлівую“ працу групы, а толькі проціў пэўных паадзінчых асобаў. Адным словам, тыповы спэцыфічны дэфэнзыўны данос. Нават самыя формы даносу характарна дэфэнзыўныя: „Zameldujemy mu...“ — так ён пачынаецца. Схаванай мэтай даносу ёсьць жаданьне спараліжаваць галоўную ідэю Часовай Беларускай Рады, ідэю мірнага супольнага жыцьця і супольнага паразуменьня беларускага і польскага народаў.

Польскае грамадзянства, зразумела, вядзе барацьбу адналітым фронтам з сэпаратыстычнымі нахіламі некаторых прадстаўнікоў меншасьцяў. Вось-жа даносчык з хворае галавы дый на здаровую звальвае абвінавачаньне ў сэпаратызьме на групу, якая адной з галоўных сваіх мэтаў ставіць якраз барацьбу з гэтым сэпаратызмам. І дзіўна гучаць у вуснах гэтага пана „obawę o losy ziem polskich i przedewszystkiem utrzymanie całości Rzeczyospolitej“! Пугнуўшы гэтакім чынам публіку палючым страхам страты *крэсаў*, даносчык падтасоўвае запраўды пашулерску самыя факты. Так, гаворачы аб дэлегацыі Ч. Б. Р. ў Варшаве, з якой паразумяваецца ў справах нацыяльных меншасьцяў наш урад з панам прэм'ерам Грабскім на чале, піша: ў склад гэтай дэлегацыі прадстаўляючай прытон (звычайная лаянка „С. П.“) пад назовам „Беларускага Грамадзянскага Сабраньня ў Вільні“ ўваходзілі паміж іншымі (?!) п. п. Валэйша, Кабычкін, Більдзюкевіч, палк. Канапацкі, др. Паўлюкевіч і Салавей.

Гэта ёсьць яўная перацяжка, бо амаль не ўва ўсіх варшаўскіх газэтах быў надрукованы склад дэлегацыі, якая была прынята міністрамі ўраду і п. прэм'ерам. І ў газэтнай хроніцы ясна гаварылася, што ў гэтую делегацыю ўваходзілі толькі пп. Паўлюкевіч і Більдзюкевіч. Але гэта

цывільныя становішчы, пайшлі ў войска. Цяпер бачым, што сярод ваенных трэба ў некаторых здарэньнях шукаць адпаведных людзей на становішчы ў цывільнай адміністрацыі.

Але ўрад ня думае абмежавацца толькі сарганізаваньнем абароннай сілы на крэсах. Урад ведае аб агульных недахватах тамашняй адміністрацыі і пачынае папраўляць яе ў розных галінах. Урад будзе імкнуцца да таго, каб згарманіраваць чыннасьці ўсіх уладаў на крэсах у такім напрамку, каб мясцовае насяленьне магло адчуць і ўцяміць, што польская ўлада ня толькі вымагае паслухнянасьці, але дбае аб дабры насяленьня. Дзеля гэтага будзе асобны дэлегат ураду, назначаны з шырокімі паўнамоччамі. Асабліва ўрад пастанавіў ускорыць рэформу зямельных адносін на Крэсах з шырокім учасьцем мясцовага насяленьня. Урад гэтага зусім ня зьвязвае са спосабамі змаганьня з бандыцкімі нападамі. Ад гвалту заўсёды трэба бараніцца сілай і дзеля таго, што ў нейкай мясцовасьці істнуюць гвалты, нельга да яе адносіцца дабрадзейна. Але таксама ня сьлед пазбаўляць яе таго дабра, якога ў Польшчы маюць права дамагацца ад ураду ўсе яе грамадзяне.

Павядзеньнем улады ў адносінах да насяленьня ўрад хоча даць гэтаму насяленьню магчымасьць з'орыентавацца як сьлед датычна свайго лёсу і ўцямленьня ўласнага інтарэсу. Дзеля гэтага, ўрадовая палітыка павінна быць праграмная, сьвядомая, пасьледавальная і трывалая. Першую аснову дзеля гэткай палітыкі даў закон аб мовах, прыняты Соймам. Далейшую чыннасьць урад маніцца разьвіваць пасьледавальна, лічачы на падмогу тых парлямэнтарных групаў, якія колькі месяцаў назад далі магчымасьць прайсьці закону аб мовах.

Рэзультаты гэтай працы ня могуць быць хуткасьпелымі. Праца каля вырашэньня (ustalenia) польскай палітыкі на крэсах, гэта ёсьць чыннасьць не дзеля эфэкту, але гэта ёсьць адна з асноваў будучыны нашай дзяржавы.

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

27 кастрычніка адбылося пад кіраўніцтвам Маршалка Тромпчынскага паседжаньне сэнацкага сэньёрэн-конвэнту. Паводлуг жаданьня конвэнту п. Маршалак зьвярнуўся да прэзэса рады міністраў п. Грабскага, каб ён на найбліжэйшым паседжаньні Сэнату выступіў з expose.

„Express Poranny“ піша ў корэспондэнцыі з Рыму аб польскіх перагаворах з Ватыканам па справе конкордату. Найтруднейшымі аказаліся справы разводаў, а таксама справы зямельнае ўласнасьці духавенства. Ватыкан пры перагаворах наагул стараецца, каб цывільнае законадаўства ўвяло труднасьці ў справы разводаў з мэтаю ўзмацніць інстытуцыю шлюбу.

Соймавая камісія дзеля агляду вастрогаў сягоньня мае адбыць першае пасьля вакацыяў паседжаньне, на якім мае быць устаноўлены пратакол.

Управа соймавага клюбу „Wyzwolenie“ пастанавіла адазваць пасла Тугута з удзелу ў адміністрацыйнай камісіі. Паведамлены аб гэтым, п. Тугут падаў адпаведную заяву Маршалку Сойму.

### За граніцай.

У **Францыі** на паседжаньні фінансавае камісіі парлямэнту большасьцю 20 галасоў проці 12 пастаноўлена адмяніць крэдыты на утрыманьне пасольства пры **Ватыкане.**

У сталіцы **Партугаліі** Лісабоне паліцыі ўдалося выкрыць згавор проці цяперашняга ўраду. Арыштованы 11 сяброў выканаўчага камітэту, сярод якіх ёсьць салдаты.

У **Югаславіі** на паседжаньні Скупшчыны пабіліся паслы опозыцыі з радыкаламі. Паседжаньне цягнулася толькі 10 мінют. Некалькі паслоў ранена. Аднавіўшы паседжаньне, старшыня скупшчыны заявіў, што адкладае паседжаньні да часу, пакуль зложыцца новы кабінэт.

З **Мукдэну** паведамляюць, што Чан-Со-Лін офіцыяльна абвясьціў, што яго вайна з цэнтральнаю **Кітайшчынаю** скончана.

Рэйтэр паведамляе з **Пэкіну,** што кітайскія гэнэралы зрабілі дзяржаўны пераварот, скінуўшы прэзыдэнта Тсо-О-Куна, які ўцёк з сталіцы.

Паводлуг паведамленьня з **Эгіпту,** прыезд прэм'ера Заглюль-пашы абярнуўся ад Александрыі да Каіру ў трыумфальны паход. У прамове перад маніфэстантамі, ён паўторна падкрэсьліў правы Эгіпту на **Судан** і поўную незалежнасьць, якія ён гатоў бараніць усімі спосабамі.

Як паведамляюць парыскія газэты, **С. С. Р. Р.** выдаў **Італіі** концэсіі ў Данецкім басэйне срокам на 36 гадоў.

У прамове, сказанай у **Ліоне** францускі прэм'ер Эрыё ад'значыў удачны ход франка-нямецкіх гандлёвых перагавораў.

— У Рэзультаце пробных выбараў прэзыдэнта ў **Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах** адтрымалі: Кулідж—1.293.378 галасоў, Ля-Фолет—496.206 галасоў, Доус—487.002 галасы на агульны лік 2 300.480 галасаваўшых.

Нядаўна ў **Бразыліі** ізноў загарэлася рэвалюцыя, якая адразу была спынена арыштам усіх павадыроў.

# Агляд прэсы.

### Палка мае два канцы.

„Kurjer Poranny“ наказуе, што на Валыншчыне паявілася адозва нейкага „Валынскага Камітэту Самаабароны“ гэткага зьместу:

„Грамадзяне! Вашы дамы, маемасьць і сям'я ў небясьпецы з боку бандаў, аплачваных бальшавіцкімі жыдамі. Улада не бароніць нас як сьлед, дык мы сарганізавалі ўласную абарону. Ад сёньняшняга дня мы ўсіх чэсных людзей заклікаем да абароны. Адначасна асьцерагаем, што кожны, хто будзе памагаць бальшавіцкім бандам, або укрываючы сяброў банды або даючы ім нейкія весткі, будзе пакараны сьмерцьцю і будзе спалена ўся яго маемасьць. Калі будзе патрэба, дык не задумаемся спаліць і ўсю вёску“.

Валынскі Камітэт Самаабароны. Валынь. 1924 г.

Аб гэтай адозьве „Kur. Por.“ піша:

Зьмест адозвы гэтакі радыкальны, што нельга дазваляць, каб гэткі камітэт істнаваў. Крэсовае грамадзянства павінна змагацца іншымі спосабамі і мэтадамі, а не самасудам. Самасуд — гэта спосаб чыста рэвалюцыйны і выклікае далейшыя гэткія суды, якія гранічаць з бяспраўем.

Самасуды ў Расеі часоў Керэнскага былі добрым пераходным момэнтам да бальшавізму. Дык сьцеражэцеся!

Мэксыканскія мэтоды могуць дапускацца ў Мэксыцы, але ў Польшчы, кіраванай законамі, не павінна быць навет думкі аб гэтых мэтодах барацьбы.

Справядліва, каб кожны здраднік быў пакараны сьмерцьцю, але нельга дазваляць, каб безымянны камітэт браў на сябе компэтэнцыю засуджваць людзей. Гэта было-б нарушэньнем Констытуцыі і першым крокам да ўнутранай разрухі на ўсходніх крэсах. А дык-жа нашым ворагам аб гэту разруху й ідзе.

Пры гэткіх ненармальных варунках, якія гэтак лёгка могуць быць выкарыстаны правакатарамі, — гэткая самаабарона была-б вельмі небясьпечная для цэласьці Рэчыпаспалітай.

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Плян паветранае камунікацыі паміж Парыжам і Масквою.

22-га гэтага кастрычніка тры францускія авіятары выляцелі з Парыжа з замерам зрабіць досьлед устройства паветранае камунікацыі з Масквою. Авіятары замерваліся ляцець цераз Страсбург, Прагу, Варшаву і Лодзь.

Дзеля таго, што папсаваўся мотор, авіятарам прышлося спусьціцца на францускай тэрыторыі. Ці могуць яны ляцець далей, пакуль што, невядома.

### Будова новага цэпэліна.

Паводлуг весткі з Нью-Іорку, таварышам старшыні амэрыканскае кампаніі дзеля будовы дырыжабляў выбраны нямецкі капітан Леман. Кампаніяй запрошаны на службу галоўны інжынер фабрыкі цэпэлінаў у Фрыдрыхсгафэне Арнштэйн і 11 конструктараў. Цераз тыдні два яны выяжджаюць у Нью-Іорк. Калі яны прыедуць, дык пачнецца будова новага цэпэліна, які мае быць удвая большым за той, што пераляцеў праз акіян з Нямеччыны ў Амэрыку.

### Нешчасьлівы выпадак пры рэнтгэнізацыі.

З Фінляндыі паведамляюць, што ў бальніцы ў Мантэ доктар і сястра міласэрдзя былі забіты электрычнасьцю пры фотографаваньні пацыента з падмогай рэнтгэнаўскага апарату. Пацыент лёгка ранены.

### Новыя выдумкі ў радыятэлеграфіі.

Прыехаўшы 25 кастрычніка ў Афіны на сваёй яхце „Электра“ італьянец Марконі, які ў свой час адкрыў бяздротны тэлеграф, у гутарцы з журналістымі гаварыў аб удачах радыятэлеграфіі і выказаў перакананьне, што ў хуткім часе будзе вырашана проблема злучэньня дзьвюх станцыяў

---

няважна, тут толькі мы сьцьвярджаем самы факт перацяжкі. Соль-жа даносу яскрава і ясна агаляе тыповую бальшавіцкую тэхніку даносу. Так, далей мы чытаем: „характарыстыка п. Кабычкіна кароткая: расеец, б. расейскі ўрадовец, монархіст, б. разьведчык арміі гэн. Врангеля“... і г. д. Д-р Паўлюкевіч, невядомае нацыянальнае прыналежнасьці, (ў кожным выпадку не беларус) у свой час быў ў контакце з Балаховічам, а адначасна і з Врангелем (?! Рэд.) „ды расейскімі монархістамі“... Далей трэба было-б дабавіць: контр-рэвалюцыянэр, прыхвасьцень Антанты, польскі шпіён, „стремившийся к ниспровержению существующего строя С. С. С. Р., — приговаривается к высшей мере наказания“...

Гэта было-б зусім пасьледавальна для „Праўды“ (хоць-бы й Сялянскай). Абыходзячы „характарыстыкі“ іншых асоб, бо яны цягнуць рэдактара „Jutro“ да судзебнай адказнасьці, застановімся на двух вышэйпаданых характарыстыках, і зьвярнёмся да „Сялянскай Праўды“ і тых, хто з ёю і за ёю: На каго пушчаеце брахню? На сябе пушчаеце. Кабычкін быў у 1921 г. рэдактарам газэты Віленскага Беларускага Камітэту — „Наша Думка“, і ўваходзіў адначасова у склад Віл. Бел. Камітэту, як яго юрысконсульт, і гэта было якраз у той момэнт, „як ён быў агентам Врангеля“, дык гдзе-ж былі вашы вочы? Гдзе быў ваш „патрыятызм“? Чаму тагды аб гэтым не друкавалі?

„Д-р Паўлюкевіч невядомай нацыянальнасьці (толькі не беларус)...“ А хто, як ня д-р Паўлюкевіч (між іншым сын селяніна вёскі Бранавічы, Слуцкага пав.), выступаючы падчас выбараў, як старшыня Беларускага Сялянскага Саюзу, прынёс столькі клопату шаснастцы, бо, як свой чалавек, меў вялікую популярнасьць сярод сялян, якія ахватней ішлі за чыстым беларускім сьпіскам, чым за інтэрнацыянальным вінігрэтам, які прадстаўляла 16-ка. Гэты „не-беларус“ адмовіўся па ідэолёгічным мотывам ад пэўнага першага месца, прапанованага яму 16-кай па Наваградзкаму вокругу. Гэты „не-беларус“ не пайшоў і ў № 22, гдзе згуртаваліся амаль ня ўсе дзеячы паляна-фільскай думкі, бо лічыў, што ідэолёгічная падстава № 22 не адпавядае яго нацыянальнаму сумленьню. Гэты „не-беларус“, калі яму гэтакім чынам не далі магчымасьці ісьці на выбары з сваім чыста-беларускім сялянскім сьпіскам, зусім выйшаў з выбарчай акцыі, заявіўшы аб гэтым на шпальтах газэт urbi et orbi.

Гэты „не — беларус“ між іншым быў адным з арганізатараў слаўнага Слуцкага паўстаньня (якое шануе сам Віленскі Бел. Камітэт і сьвяткуе яго ўгодкі) і быў віцэ старшынёй Рады Случчыны і адначасна падчас аружнага змаганьня за незалежнасьць Бацькаўшчыны галоўным доктарам Слуцкай Брыгады.

Што тычыцца закідаў аб манархізме, дык яны зусім ідыятычныя. Што наогул можа быць супольнага ў беларускага дэмакратычнага, палітычнага дзеяча з монархізмам? Абсолючны абсурд і гнюсны паклёп.

Але даносчык дапусьціў маленькую, гэтак кажучы, рэдакцыйную памылку, якая, аднак-жа, зусім расшыфроўвае, хто фактычны інсьпіратар гэтага даносу.

Так далей мы чытаем: „затое ня маець ніякае вагі опінія паслоў і сэнатараў з Беларускага Клюбу: п.п. Тарашкевіча, Луцкевіча (як гэта? пасол без мандату, гэтак казаць, надпасол!...), ксяндза Станкевіча... Вось усё і ясна, як на паперы:

1) пугнулі польскае грамадзянства страхам за цэласьць дзяржавы (адкуль гэтакі патрыятызм?...),

2) трохі даносаў і абвінавачваньня ў зносінах з Балаховічам, Врангелем, монархістамі, контр-рэвалюцыянэрамі, Антантай і ў другіх контр-рэвалюцыйных праступленьнях...

І нарэшце, 3) прымеце нас у беласьнежных беларускіх патрыятычных рызах, бо толькі мы, мы адны можам уратаваць Рым (а першы збавіцель сярод нас *надпасол* Луцкевіч!) Усе-ж *еже* не з намі, папросту канальлі.

Вось якія спосабы ўжывае ў культурным гаспадарстве гнюсная экспозытура маскоўскіх бальшавікоў — „Сялянская Праўда“ пэцкаючая імя беларуса.

**Н. В.**

**Ад Рэдакцыі.** Калі прыняць пад увагу, што адначасна гэты гнюсны правакацыйны данос быў зьмешчаны ў газэце „Krynica“ ад 25 кастрычніка (№ 30) г. зн. адначасна з № 11 „Сялянскай Праўды“, дык можа людзям і не паінфармованым ясна стане, хто з пп. паслоў займаецца падобнымі гнюснымі даносамі.

без пасрэдніцтва іншых—у якім хаця пункце зямное кулі. Марконі дайшоў ужо да поўнае ізоляцыі пры зносінах радыятэлеграфам, але апрача таго дасягнуў новых рэзультатаў у скорасьці, што дасьць магчымасьць зьменшыць у 20 разоў расходы па пасылцы тэлеграмаў. Марконі ў канцы заявіў, што ў хуткім часе сьвет будзе зьдзейлены новаю выдумкаю ў галіне гаспадарчай.

### Невядомая хвароба ўва Усходняй Прусіі.

Бэрлінскі карэспондэнт парыскае часопісі „Journal" паведамляе, што ўсходня-прускія газэты зьмяшчаюць весткі аб нейкай невядомай хваробе, якая тамака зьявілася. Зарэестравана дасюль некалькі сьмяротных выпадкаў ад гэтае хваробы. Хвароба пашыраецца ўдоўж марскога берагу каля Пілавы. „Echo de Ostens" паведамляе, што на паверхні мора зьявіўся нейкі газ, які пакрывае ваду слоем у 50 сант. таўшчыні. Адна ваенная асоба, абадаўшы гэты газ, знайшла ў ім сходнасьць з атрутным газам, які ўжываўся немцамі падчас сусьветнае вайны. Газэта „Soc. Republik", разважаючы над гэтымі пытаньнямі, абвінавачвае ўрад ў бязьдзеяльнасьці і зазначае, што гэт. зв. „чорны рэйхсвэр" энэргічна рыхтуецца да ваенпага рэваншу.

## У С.С.Р.Р.

### Забіваюць і раняць галодных.

Паводлуг вестак з Канстантынопаля, ў Александропальскім вокрузе Савецка-Армянскае рэспублікі адбыліся вялікія неспакойствы і выступленьні галодных сялян. 15 кастрычніка табары галодных, прыбыўшыя ў Александропаль па адтрыманьне абяцанае харчавое падмогі, адмовіліся ачысьціць горад, трэбуючы харчавое пазыкі. Пры прымусовым разгоне галодных адбылося пабоішча паміж імі і чырвонаармейцамі, ў рэзультацe якога было забіта 7 і цяжка ранена 46 чалавек. 16 кастрычніка па армянскіх сёлах пачаліся непарадкі і разгромы савецка-партыйных установаў.

### Форма для вучняў.

Падчас рэвалюцыі ў Расеі зьнікла форма ў вучняў. Цяпер камісія пры камісарыяце прасьветы распрацоўвае проект новае формы для вучняў у школах С. С. Р. Р.

### Бальшавіцкія зьверствы.

Як піша орган Польскае Соцыялістычнае Партыі „Robotnik", у Тэмір-Хан-Шуры (Грузія) расстраляна 6 загадчыкаў з мясцовае старшыні за тое, што насяленьне адмовіла ў падмозе каральнаму бальшавіцкаму аддзелу, шукаўшаму грузінскіх паўстанцаў.

У вокрузе Чэрт-Юрт усе сем'і, сябры якіх мелі дачыненьне да паўстаньня (па даносах шпігоў), ссылаюцца ў Сібір на бясстрочнае пасяленьне.

У губэрскіх судох Грузіі выдзелены асобныя сэкцыі дзеля разгляду справаў, зьвязаных з паўстаньнем і перадаваемых з Чэ-Ка. У мясцовасьці Озургэт сэсія гэткага суда разглядала 9 і 10 гэтага кастрычніка 68 справаў, па якіх вынесены 27 прыгавараў сьмерці, у Горы—19 прыгавараў сьмерці, ў Чіатарах — 31, у Кутаісе — 8, у Душэце — 13 і ў Нова-Сэнаках — 5, агулам 103 прыгавары сьмерці ў працягу 2-х дзён!

З Боржому выселена 116 сем'яў за ўдзел у выступленьнях проці ўлады.

У грозьненскіх закладах абвешчана рабочым, што за ўдзел у забаставачным руху і самавольнае перарываньне працы вінаватыя, ў адміністрацыйным парадку, будуць *выселены назаўсёды* з межаў Дагестанскага абводу. Заклады гэтыя ўжо тры месяцы зацягваюць з выплатамі заробкаў. Кваліфікованыя рабочыя масамі пакідаюць заклады.

У Варонескай губэрні ваенныя ўлады зьліквідавалі ў верасьні 7 паўстанчых аддзелаў, якія нападалі выняткова толькі на ўрадовыя заклады і інстытуцыі. Адным з гэтых аддзелаў камандаваў быўшы камуністы Бандароў, якому прыпісвана забойства 20-х камуністых. Аддзелы складаліся з безработных і сялян. З ліку злоўленых паўстанцаў расстрэлена 52 чалавекі.

### Савецкі бюд'жэт.

У гутарцы з карэспондэнтам „Роста" Сакольнікаў заявіў, што бюд'жэт С. С. Р. Р. у 1924—25 г. дасягне 2.091 мільёнаў залатых рублеў, тады як у папярэднім годзе бюд'жэт быў зьведзены ў суме 1.912 мільёнаў. Нязначнасьць павялічэньня бюд'жэту тлумачыцца неўраджаем, праглынуўшым агулам 108 мільёнаў рублёў. Бюд'жэт зводзіцца з дэфіцытам у 120 мільёнаў, які будзе пакрыты крэдытнымі опэрацыямі.

### Землятрасеньне ў Сібіры.

18-га кастрычніка іркуцкая сэйсьмічная станцыя запісала рад слабых хістаньняў зямлі. Найболей моцнае хістаньне запісана ў 7 гадз. 43 мін. раніцы і адчувалася ў Іркуцку. Эпіцэнтр землятрасеньня ляжыць у 60 кілёмэтрах на ўсход ад Іркуцку на беразе Байкалу, ў раёне сяла Голаустнага.

У той самы дзень у 11 гадз. 23 мін. ўвечары занатована даволі моцнае землятрасеньне, эпіцэнтр якога знаходзіцца ў Сямірэччы, недалёка ад возера Ісык-Куль.

### Польска-савецкі конфлікт.

„Роста" паведамляе: „Варшаўскія газэты цьвярдзяць, што агент польскае тайнае паліцыі зрабіў напад на служачага савецкага прадстаўніцтва за тое, што ён быў перад тым зьбіты і аграблены ў савецкім прадстаўніцтве. Савецкі дыпламатычны паверанны ў справах Бесядоўскі зьвярнуўся да польскага ўраду з просьбаю заявіць гэтаму паведамленьню, ў праціўным выпадку савецкі пасланьнік у Польшчы, які ў цяперашні час знаходзіцца ў Маскве, не замерваецца выяжджаць у Варшаву".

## Навіны у тры радкі.

— Паводлуг вестак з Бірмінгаму (Англія), тамака 22 кастр. адчувалася легкае землятрасеньне. Ахвяраў у людзях ня было.

— З Масквы надыйшла вестка, што савецкі ўрад замерваецца ізноў зрабіць з Петраграду сталіцу.

— У Англіі лік безработных павялічыўся за апошнія тры тыдні на 50.000 чалавек.

— У Польшчу з вялікаю ўрачыстасьцю перавезены з Швайцарыі астанкі аднаго з найбольшых пісьменьнікаў Гэнрыка Сенкевіча.

— У Варшаве пахованы д-р Вітальд Наркевіч-Іодко, быўшы польскі пасол у Канстантынопалі і Рызе.

— У Паўночнай Амэрыцы недалёка ад Ніагарскага вадападу стаўкнуліся два электрычныя паязды. Два чалавекі забіты, 77 ранены, з іх 10 вельмі цяжка.

— „Lokal-Anzeiger" піша аб моцных баёх, быўшых паміж паўстанцамі і бальшавікамі ў Радавай Беларусі.

— Амэрыканскі ўрад прыступіў да ўстанаўленьня паветранае лініі паміж Эўропай і востравам Кубай.

— У Варшаве прадана паслу Корфанты газэта „Rzeczpospolita", ад чаго ў новага гаспадара паўстаў конфлікт з супрацоўнікамі. Раней гаспадаром газэты быў п. І. Падэрэўскі, быўшы прэм'ер-міністар.

— „Chicago Tribune" паведамляе, што Троцкі выехаў на кітайскі фронт, каб камандаваць 50 тысячнай савецкай арміяй.

— У Англіі быў арыштованы ўладамі павадыр ірляндзкіх незалежнікаў д-э Валера, хацеўшы гаварыць на мітынгу, але хутка яго выпусьцілі на волю.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Да судовай адказнасьці.** За абразу, памешчаную ў № 14 польскага тыднёвіка „Jutro" выходзячага ў Варшаве, Старшыня Бел. Грам. Сабраньня С. Валэйша і п. А. Кабычкін, цягнуць да судовай адказнасьці рэдактара вышэйназванага „Jutra" п. Брунон-Гросіцкага, злажыўшы заяву аб гэтым пракурору Варшаўскага Акружнога Суда.

= **Зьезд сельска-гаспадарчых рабочых.** На апошнім зьезьдзе сельска-гаспадарчых рабочых, які адбыўся ў Польскім Рабочым Доме было 70 дэлегатаў. Прэзэсам Зьезду быў выбраны Буйка. Зьезд выслухаў даклад аб рэзультатах працы над'звычайнае конфліктнае камісіі, якая апрацоўвае колектыўны дагавор для сельска-гаспадарчых рабочых і прызнаў добрымі дзеяньні прадстаўнікоў рабочых у гэтай камісіі.

= **Брат Дзяржынскага.** Як піша „Віл. Утро", Касьпер Дзяржынскі (вул. Роса 7) заявіў паліцыі аб тым, што ўночы на 23 кастрычніка паміж станцыямі Вільняй і Парубанкам украдзена 225 стаўпоў дзеля сьнежных заслонаў на чугунцы вартасьцю 337 злотых. Газэта дадае, што гэты Дзяржынскі служыць дарожным майстрам і зьяўляецца братам прэзэса ГПУ ў Маскве Дзяржынскага. Віленскі Дзяржынскі ваяваў з бальшавікамі і мае крыж „Virtuti Militari".

= **Малако даражэе.** Ад 15 кастрычніка цэны на малако падняліся на 20 проц.

= **Профэсыянальны рух.** Управа профэсыянальнага саюзу млынарскіх рабочых пастанавіла трэбаваць падвышэньня заработнае платы на 25 процэнтаў.

= **Эпідэмія.** З 15 да 25 кастрычніка зарэестравана 14 захварэньняў брушным тыфусам і 6 сыпным. Як заявіў галоўны доктар Лукоўскі, заўважаецца павялічэньне эпідэміі тыфусу.



## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Не адмоўце зьмясьціць у Вашай газэце ніжэйпаданае:

Грам. А. Луцкевіч, у пісьме сваім, надрукованым у № 11 „Сялянскай Праўды" ў справе памешканьня напісаў няпраўду.

Справа была гэтак: пан Антон Луцкевіч зьвярнуўся да Беларускага Грамадзянскага Сабраньня з прапазыцыяй, каб адкупіць ад яго, Луцкевіча, памешканьне на Віленскай вуліцы № 33 за адступное ў 8 мільёнаў мар. Патаргаваліся і ўмовіліся на 6 міл. з правам карыстацца кніжкамі бібліятэкі, якая там знаходзілася. Я зрабіў даклад Радзе Старшыняў, каторая і зацьвярдзіла гэтую ўмову і былі выплачаны Луцкевічу 6 міл. мар. (пратаколы №№ 4, 5 і 6).

Пасьля гэтага перанясьлі патрэбныя рэчы, пераехаў сэкрэтар з сямействам (п. Жаўрыд, які цяпер у Менску) у тую кватэру і пачалі ўжо гаспадарыць: правоцку электрычнасьці зрабілі і іншыя рэмонты. Аж неспадзявана зьяўляюцца два паны з паліцэйскім і робяць запытаньне, на якіх падставах Грамадзянскае Сабраньне заняло іхняе памешканьне? П. Жаўрыд паказвае паперу, што гэтае памешканьне прадаў п. А. Луцкевіч за 6 міл. мр., а тыя паны паказваюць, у свой чарод, паперу, што яны раней на год купілі гэтую кватэру ад п. Луцкевіча. Праз некалькі дзён зьявіўся яшчэ адзін чалавек, каторы заявіў, што яму яшчэ раней прадаў п. Луцкевіч гэтае памешканьне.

Нарэшце, зьявіліся: судзебны следавацель па найважнейшых справах і начальнік падатковага аддзелу з паліцыяй і патрэбавалі ачысьціць гэтае памешканьне па тэй прычыне, што яно зарэквірована ўжо год таму назад, лічыцца казённым і што магістрат аддаў ім, і што п. Луцкевіч... прадаў зарэквірованае памешканьне, на што ён ня меў права.

Тады Прэзыдыум Бел. Грам. Сабраньня зьвярнуўся да п. Дэлегата Ураду і аказалася, што гэта ўсё праўда і тут-жа п. Дэлегат сказаў, каб проці п. Луцкевіча распачаць судовую справу за ашуканства, а тымчасам Грамадзянскае Сабраньне выкінулі з купленае ад п. Луцкевіча кватэры. 8 месяцаў яно ня мела памешканьня, бо і грошы нельга было вярнуць ад п. Луцкевіча, калі аб гэтым была вынесена пастанова радай старшыняў (пратакол № 9). Што датычыць звароту грошай, то п. Луцкевіч вярнуў толькі 5 міл. мр., калі маркі былі страціўшы цэннасьць, а мільён мр. і пасягоняшні дзень не адтрыманы ад п. Луцкевіча.

Справа гэтая па юрыдычнай тэрміналёгіі называецца ашуканствам і караецца $1^1/_2$ гадамі арыштанскіх рот, на што і налягалі некаторыя сябры Грам. Сабраньня, каб аддаць пад суд гр А. Луцкевіча, але я ўгаварыў, каб не рабіць скандалу і, гэтакім чынам, п. Луцкевіч абмінуў Лукішкі.

*С. Валэйша.*
Прэзэс Белар. Грам. Сабр.

**Ад Рэдакцыі**: Дзеля таго, што як пісьмо, п. Луцкевіча ў «Сял. Пр.», так і гэтае пісьмо п. Валэйшы зьяўляюцца рэзультатам артыкулу ў „Грам. Голасе" пад загалоўкам „Крыху статыстыкі", мусім зазначыць, што у артыкуле гэтым мы абсолютна ня ўнікалі ў тое, ці хто вярнуў, ці не вярнуў адтрымліваныя з „Белар. Грам. Сабр." сумы. Нам хапала таго, каб устанавіць самы факт адтрымліваньня грошай (няхай сабе самага абаснованага і законнага) з Сабраньня тымі, хто на ўсю вуліцу цяпер гэтае Сабраньне лае.

## Паштовая скрынка.

**Печык** — газэту высылаем. **Ян Онушко, А. Мароз і Аляксей Маскалік** — пісьмы атрымалі, газэты высылаем.

Радактар-Выдавец **Язэп Салавей**. Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.